**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 45 (761) 6 лістапада 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Настаяцель Свята-Успенскай царквы айцец Васіль Стрыжнёў адслужыў малебен на месцы пахавання жыхароў вёскі Шыцы, якія былі спаленыя 28 лістапада 1942 года.** *Фота З. Лупача.*

## Гарадоцкі раён

# Паказуха – справа звыклая

■ Чэслаў Якубовіч

**У канцы верасня ў Гарадку з пафасам правялі чарговыя “Дажынкі”, якія займелі, праўда, толькі статус абласнога свята**.

Тады кіраўніцтва вобласці адрапартавала, што ўдалося за кароткі тэрмін рэканструяваць і абнавіць нават 167 аб’ектаў сацыяльнай сферы, на іх патрацілі звыш 70 млн. долараў (700 млрд. рублёў), з якіх большасць з абласнога бюджэту. У сталіцы хлебаробскага свята шэраг аб’ектаў агледзеў асабіста старшыня Віцебскага аблвыканкама А. Косінец. Шкада толькі, што не паспеў ён паглядзець на якасць работ у буйнейшым у горадзе дзіцячым садку на 220 месц. З гэтай нагоды проста разгромны рэпартаж надрукавала ўрадавая газета “Рэспубліка” і бліскуча раскрыла ўвесь механізм гаспадарання пабеларуску і пануючай у нас паказухі. Да “Дажынак” паспелі толькі па загаду навесці марафет на вонкавы бок будынка, які бачны з цэнтральнай вуліцы. Да таго ж садзік не ўключылі ў асноўны спіс важнейшых аб’ектаў, работы фінансавалі па астаткавым прынцыпе, са спазненнем, замест патрабуемых 10 млрд. рублёў выдзелілі 4, а потым і гэту суму зменшылі. Вялізны аб’ём работ падрадчыку, фірме ААТ “Пліса-Інвест” прапанавалі выканаць за 3 месяцы ў аўральным рэжыме. Будаўнікам, дарэчы, заказчык яшчэ вінаваты 1,6 млрд. рублёў за выкананыя работы і закупленыя будматэрыялы. Ды і працаваць на садзіку яны пачалі толькі напрыканцы лета, што змаглі, тое і зрабілі. У выніку дах фірма даканчвалася ўжо пасля ярмаркі-кірмашу, пайшоў моцны дождж і заліў частку памяшканняў. Як высветлілася, у разгар ацяпляльнага сезона на аб’екце яшчэ працягвалі мяняць вокны, дрэнна тут зрабілі і ліўнёвую каналізацыю, з-за чаго перад садзікам у дрэннае надвор’е ўтвараюцца вялізныя лужы…

## Пастаўскі раён

# Ад завода адны руіны

■ Кастусь Александровіч

**За больш чым пяцісотгадовую гісторыю гарпасёлка Лынтупы, што ў Пастаўскім раёне, у мястэчку ўвесь час выраблялі спірт, піва і гарэлку-медавуху**.

Першы ж мясцовы броварвінакурня стаў працаваць з 1591 года, а 10 гадоў назад сучасны спіртзавод з размахам адзначыў свой стогадовы юбілей. Тады ніхто і не мог падумаць, што сучаснае прадпрыемства рэспубліканскага значэння, на якім кожныя суткі выраблялі больш 2 тысяч дал самага якаснага ў Беларусі спірту класа “Люкс”, неўзабаве згубіць сваю самастойнасць. Завод стаў толькі філіялам Віцебскага лікёра-гарэлачнага завода, а перад гэтым правёў мадэрнізацыю асноўнага абсталявання, запусціў новую разгонную спіртавую калону і адгружаў штогод да 542 тысяч дал спірту выключна для экспартных паставак беларускай гарэлкі. Аднак у новым статусе завод пачаў губляць свае пазіцыі, а летась тут адбыўся выбух, загінула маладая бухгалтар, раненні атрымалі некалькі чалавек. Тады працаўнікам абяцалі аднавіць завод і яшчэ сёлета вясной быў аб’яўлены тэндар на закуп новага абсталявання. Аднак канцэрн “Белдзяржхарчпрам” у сярэдзіне восені змяніў сваю пазіцыю і фактычна адмовіўся ўзводзіць у Лынтупах новы асноўны цэх замест разбуранага, тым самым паставіў сумную кропку ў гісторыі мясцовага спіртзавода, хоць сюды правялі і прыродны газ. Засмучае, што на Пастаўшчыне – гэта не адзіны прыклад “смерці” прадпрыемства, бо раней былі закрыты шклозавод у Гуце, кансервавы завод і мясакамбінат у райцэнтры.

## Глыбоцкі раён

# Заплыў за краты

■ Станіслаў Раманчук

**Можна толькі здзіўляцца, як асобныя суайчыннікі ламаюць свае лёсы пасля ганебных неабдуманых учынкаў.**

Вось і ў цэнтры Глыбокага днямі разыгралася сапраўды трагікамічная, хоць і дэтэктыўнаягісторыя.Праўда, “антыгероем” у ёй быў не мясцовы жыхар, а малады госць з суседніх Паставаў. Аднак у 27 гадоў жыццё ў гэтага хлопца не стала складвацца яшчэ маладосці. Ёе трапіў за краты за разбой, а потым і ў другі раз за ўхіленне ад адбыцця пакарання. У калоніі правёў паўтара года, калі вярнуўся дамоў, на працягу года нідзе не працаваў, а жыў за кошт свайго бацькі з бабуляй. Як на грэх, хлопец пасварыўся і са сваёй дзяўчынай і ў прыгнечаным стане прыехаў у суседні горад. Аднак падняць сабе настрой гараджанін вырашыў арыгінальным спосабам. У адным з глыбоцкіх магазінаў ён папрасіў у прадаўца некалькі бутэлек гарэлкі, пачку цыгарэт і закускі для быццам “пікніка”. Аднак за тавар і не думаў разлічвацца, узяў і кінуўся наўцёк. У краме не разгубіліся і адразу выклікалі нарад міліцыі, які паспеў наблізіцца да злодзея-бегуна ля мясцовага возера. Прыгоды зламысніка прадоўжыліся ўжо ў сцюдзёнай вадзе, ён кінуў свой пакет і змог заплыць нават на сярэдзіну вадаёма. Сілы свае злодзей не разлічыў і ледзь не патануў. Небараку выратавалі на лодцы падаспеўшыя супрацоўнікі райаадзела МНС. Яго прыйшлося з сур’ёзным пераахаладжаннем арганізма змясціць з вартай на лячэнне ў бальніцу. Калі стан здароўя шукальніка прыгод палепшыўся, яго даставілі ў звыклую турэмную камеру. Неўзабаве суд установіць ступень ягонай віны, а максімальны тэрмін пакарання можа скласці нават да 6 гадоў турмы.

# Аб самым надзённым

## АЙЧЫННЫМ АЎТАМАБІЛІСТАМ ТРЭБА РЫХТАВАЦЦА ДА НОВАГА ПАВЫШЭННЯ НАПРЫКАНЦЫ ГОДА ЦЭН НА ПАЛІВА




■ Аляксандр Цішкевіч

**Увогуле для беларусаў асабістае аўто – цяпер усё болей прадмет раскошы, бо афіцыйна аб’яўлена, што на запраўках цэны на бензін і салярку будуць мяняцца (лічы расці) у канцы кожнага квартала. Спецыялісты канцэрна “Белнафтахім” аб’явілі, што кошт літра бензіна будзе прывязаны да долара, які ніяк нідзе ў свеце чамусьці не здае сваіх пазіцый.**

Нездарма ж гаворыцца, што кожны чалавек даволі хутка прывыкае як да добрых, так і дрэнных змен у паўсядзённым жыцці. Вось і напрыканцы кастрычніка ў Беларусі пасля працяглай камфортнай восені рэзка пахаладала і стала відавочна, што нас чакае працяглы перыяд зімовых халадоў. Дзяржава ж вырашыла зноў паклапаціцца аб людзях і пастанавіла не вяртаць у нашу краіну зімовы час, а сезонны перавод стрэлак, дарэчы, гадзіннікаў адмянілі яшчэ ў 2011 годзе. Самае дзіўнае, што нашы суседзі на Усходзе ўсвядомілі, што нарабілі і правільна вярнулі ў Расіі сезонны час.

Мы ж, аказваецца, быццам самыя “разумныя” і з 26 кастрычніка маскоўскі час стаў заўжды супадаць з мінскім, хоць паміж дзвюма сталіцамі аддлегласць амаль тысяча км, а гэта фактычна адзін часавы пояс. Злыя языкі нашэптваюць, што так у нас зроблена дзеля таго, каб у навагоднюю ноч ніхто з беларускіх тэлегледачоў не змог пабачыць віншаванне са святамі расійскага лідара У. Пуціна на фоне заснежанага Крамля. У гэты час сваю запісаную прамову агучыць толькі кіраўнік беларускай дзяржавы, які запомніўся днямі рэкорднай (доўжылася больш 5 з паловай гадзін) 12-й па ліку прэс-канферэнцыяй для прадстаўнікоў расійскіх рэгіянальных СМІ.

У адрозненне ад іншых такіх сустрэч з медыя, А. Лукашэнка даволі нечакана шмат агучыў антырасійскай рыторыкі найперш па ўкраінскім пытанні. Аднак гэта зразумелы крок, бо яму патрабуецца набываць як мага болей прыхільнікаў, бо не за гарамі і старт чарговай прэзідэнцкай гонкі. У сувязі з гэтым, у грамадска-палітычным жыцці і ў эканамічнай сферы ў бліжэйшы час будзе шмат узнята пытанняў, якія закрануць інтарэсы многіх грамадзян. З гэтага роду і нядаўняе прынятае рашэнне абавязаць усіх вадзіцеляў ездзіць з зімовымі шынамі і таксама з дзіцячымі аўтакрэсламі.

Для большасці аўтамабілістаў – гэта будуць дадатковыя істотныя расходы, а самыя кемлівыя падлічылі, што нават выгадней ездзіць круглы год з зімовымі апонамі, асабліва калі набываць іх на шопінгу ў дзяржавах ЕС, дзе яны таннейшыя і больш якасныя. Увогуле для беларусаў асабістае аўто – цяпер усё болей прадмет раскошы, бо афіцыйна аб’яўлена, што на запраўках цэны на бензін і салярку будуць мяняцца (лічы расці) у канцы кожнага квартала. Спецыялісты канцэрна “Белнафтахім” аб’явілі, што кошт літра бензіна будзе прывязаны да долара, які ніяк нідзе ў свеце чамусьці не здае сваіх пазіцый.

У нашай сінявокай дзяржаве “зялёненькі” пакрыху даражэе практычна штодзень, у сярэднім за месяц расце дзесьці на 120 рублёў. Верагодна, такія тэмпы дэвальвацыі курсу рубля захаваюцца і ў далейшым. Такім чынам перад навагоднімі святамі на АЗС кожны аўтамабіліст за 1 літр самага таннага бензіна 92-й маркі заплоціць ужо 11 тысяч рублёў. Апошняе, чацвёртае па ліку падаражэнне паліва было зафіксавана ў пачатку другога месяца восені. Для параўнання, у суседняй Польшчы цэны на паліва патаннелі і там за літр 95-бензіна трэба выкласці 16,5 тысяч беларускіх рублёў, але не забывайце, што ў палякаў сярэднія заробкі ў межах 1300 долараў у месяц.

Хоць і кажуць, што добра там, дзе нас няма, але ж у больш багатай Еўропе цяпер цэны ў шматлікіх супер і гіпермаркетах на прадукты харчавання больш танныя у 2-3 разы, чым у нас. Еўрапейцы, трэба прызнаць, прызвычаіліся да значна больш высокіх стандартаў жыцця, у іх можа быць некалькі дзясяткаў варыянтаў і ўпаковак мяса і рыбы, соўсаў і масла. За мяжой тая ж бульба прадаецца чыстая, вымытая, танней за нашу, не кажучы ўжо пра значна больш высокую культуру абслугоўвання і асартымент тавараў і ежы, сезонныя перадкалядныя зніжкі на 50-70 %.

Між тым, колькі ўжо разоў гаварылася, што краіна ідзе сваім, непадобным на суседзяў курсам. Вось і Міністэрства аховы здароўя Беларусі пачало ажыццяўляць пастаўленую дзяржавай задачу, каб суайчыннікі болей “лячыліся беларускімі” лекамі і медыкаментамі. Асабліва ў будучым 2015 годзе гэты рынак чакаюць сур’ёзныя змены, бо трэба каб “імем рэвалюцыі” напрыканцы года палову імпартных лекавых сродкаў замянілі беларускімі аналагамі. Такая блакада замежных прэпаратаў можа, па меркаванні экспертаў, прывесці да іх дэфіцыту, асабліва для сардэчнікаў. Замежныя многія медыкаменты проста не стануць паступаць у Беларусь з-за такога адміністрацыйнага ціску.

У такой сітуацыі тыя, хто мае магчымасць ездзіць рэгулярна за мяжу, будуць часцей прывозіць на радзіму заграничныя лякарствы. Ёсць надзея, што і Еўрасаюз пойдзе нарэшце беларусам насустрач, у ходзе праходзячых перамоў і кансультацый. Да канца наступнага года кошт шэнгенскай візы для нас можа патаннець з цяперашніх 60 еўра разы ў два. Пакуль жа ўжо вядома, што са студзеня атрымаць жаданыя візы стане яшчэ складаней, бо стануць патрабаваць біяметрычных параметраў з адбіткамі пальцаў рук і фотаздымкамі вачэй. Польскае дыпведамства першым стала выдаваць беларусам турыстычныя візы тэрмінам на 2 гады, але папярэдзіла, што з цяперашніх 350 тысяч узяных віз за год па тэхнічных прычынах паменшыць іх колькасць у два разы.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 06.11.14 | | | | Пятніца 07.11.14 | | | | Субота 08.11.14 | | | | Нядзеля 09.11.14 | | | | Пн.10.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +4 | +12 | +9 | +9 | +8 | +12 | +8 | +9 | +10 | +14 | +11 | +10 | +9 | +11 | +9 | +8 | +7 | +11 |
| Ціск | 745 | 745 | 746 | 746 | 746 | 745 | 746 | 746 | 745 | 745 | 748 | 750 | 752 | 753 | 754 | 754 | 754 | 753 | 753 |
| Вільготнасць | 89 | 99 | 79 | 88 | 90 | 98 | 89 | 95 | 94 | 99 | 90 | 93 | 95 | 100 | 92 | 94 | 94 | 100 | 86 |
| Вецер м/сек | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 4 Ю | 3 Ю | 5 Ю | 4 Ю-З | 1 З | 1 Ю | 3 Ю-З | 2 Ю-З | 2 Ю | 2 С-З | 2 С-В | 4 С-В | 3 В | 2 Ю-В | 3 В | 2 Ю |

## Дзень за днём

**Расія ўявла абмежаванні на ўвоз з Беларусі прадукцыі раслiннага паходжання і забараніла ўсе падобныя тавары з Украіны і Малдовы. Больш палова айчынных прадпрыемстваў (1399) сталі сёлета стратнымі з-за слабага попыту на іх прадукцыю. МУС Беларусі прапанаваў караць дармаедаў і лайдакоў штрафамі альбо арыштамі. У пачатку восені на 1 % знізіліся складскія запасы. Урад Беларусі прапанаваў павялічыць мінімальны працоўны стаж для атрымання сацыяльных пенсій да 15 гадоў. Многіх медыкаў расчаравала вераснёўскае "дастойнае" павышэнне зарплат.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Глава МЗС РФ С. Лаўроў прызнаў, што блізкі да "халоднай вайны" перыяд пагаршэння ўзаемных адносін з ЗША будзе працяглым і не толькі з-за Украіны.

**Канада.** Пасля стральбы ў сталіцы Атаве з гібеллю вайскоўца ўрад краіны паабяцаў нацыі яшчэ больш узмацніць барацьбу з ісламскім фундаменталізмам і тэрарызмам.

**Бельгія.** Паводзіны Пуціна на саміце ў Мілане былі настолькі нахабнымі, як заявіў дакладчык Еўрапарламента па Украіне Я. Вольскі, што з ім Еўропе нельга весці справы.

**Украіна.** Жыхароў Данбаса і суседняй РФ чакае неўзабаве і гіганцкая экалагічная катастрофа з-за затопленых шахт, у самой "Наваросіі" павялічылася грызня за ўладу.

**Германія.** Германская разведслужба БНД усклала адказнасць за знішчэнне пасажырскага самалёта "Малайзійскіх авіяліній" на прарасійскіх сепаратыстаў пад Данецкам.

**Францыя.** Яшчэ больш азмрочыла імідж Расіі трагічная гібель ноччу ў аэрапорце Унукава прэзідэнта найбуйнейшай нафтавай кампаніі Total Крыстофа дэ Маржэры.

**Швецыя.** Пасля інцыдэнту з пошукам расійскай падводнай лодкі ў сваіх водах урад краіны пацвердзіў, што шведы не збіраюцца ўступаць у альянс дзяржаў НАТО.

**Украіна.** Пагранслужба і СНБА краіны абверглі заявы Пуціна аб адводзе ад граніц Украіны расійскіх войск і вяртанні часцей у месцы іх пастаяннай дыслакацыі.

**Літва.** Акруговая пракуратура Вільнюса спыніла дасудовае расследванне ў адносінах начальніка Следчага камітэта па Мінску Д. Канапляніка, ён з жонкай вярнуўся ў Беларусь.

**Грузія.** Суд Тбілісі прызнаў былога прэм'ер-міністра і экс-главу МУС Вано Мерабішвілі вінаватым у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі і пакараў яшчэ 3 гадамі турмы.

**Іспанія.** Пасля двух тыдняў курсу лячэння ў клініцы Мадрыда "Карлас III" медсястра Тэрэза Рамера вылечылася ад ліхаманкі Эбола, яна заразілася падчас догляду хворых.

**ПАР.** Суд пакараў сусветна вядомага чэмпіёна Паралімпійскіх гульняў Аскара Пісторыуса 5 гадамі турмы за ненаўмыснае забойства па неасцярожнасці дома сваёй дзяўчыны.

**Расія.** Дадатковыя размовы выклікала прызначчэнне 31-гадовай Аліны Кабаевай главой буйнога медыя-холдынга НМГ, яе лічаць любоўніцай Пуціна і маці яшчэ двух яго сыноў.

**Японія.** За выраб з дапамогай 3D прынтара і захоўванне потым дома рэвальвера 28-гадовы японец Есімота Імура па прыгавору суда пакараны 2 гадамі турэмнага зняволення.

**Францыя.** За цыкл кніг "Чырвоны чалавек. Галасы ўтопіі" пісьменніцу з Беларусі С. Алексіевіч узнагародзілі прэстыжным афіцэрскім ордэнам мастацтваў 2-й ступені.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск павіншаваў Тадэвуша Кандрусевіча з 25-годдзем служэння ў сане епіскапа, ён вярнуў беларусам 100 касцёлаў, увёў у храмы родную мову.

## Тэрмін дзеяння фітасанітарных сертыфікатаў скароцяць



■ TUT.BY

**Фітасанітарныя сертыфікаты, якія выдаюцца на час знаходжання грузу ў дарозе, будуць сапраўдны толькі на працягу 30 каляндарных дзён з даты выдачы, гаворыцца ў каментары ГУ «Галоўная дзяржаўная інспекцыя па насенневодстве, каранціне і ахове раслін» Беларусі.**

Каментар апублікаваны ў адказ на інфармацыю Расельгаснагляду пра выяўленне новых выпадкаў рэалізацыі незаконных схем завозу на тэрыторыю Расіі забароненай да ўвозу раслiннай прадукцыі з Еўрасаюза - якая нібыта пастаўляецца транзітам праз Расію з Беларусі ў Казахстан.

Са стварэннем Мытнага саюза каранцінны фітасанітарны кантроль на беларуска-расійскай мяжы не ажыццяўляецца, гаворыцца ў паведамленні беларускага ведамства. Гэта дае магчымасць нядобрасумленным удзельнікам знешнеэканамічнай дзейнасці бескантрольна перамяшчаць грузы, у тым ліку паўторна выкарыстоўваць фітасанітарны сертыфікат, што выдаецца ўпаўнаважанымі органамі ў галіне каранціну раслін краін Мытнага саюза пры экспарце прадукцыі з тэрмінам яго дзеяння 30 дзён.

У мэтах прадухілення паўторнага выкарыстання фітасанітарнага сертыфіката пры перамяшчэнні падкаранціннай прадукцыі ўнутры Мытнага саюза, па ініцыятыве Мінсельгасхарча Беларусі прынята рашэнне Савета Еўразійскай эканамічнай камісіі ад 9 кастрычнік 2014 года № 93 аб памяншэнні тэрміну дзеяння гэтага дакумента на час знаходжання грузу ў шляху руху да 30 каляндарных дзён з даты яго выдачы. Дакумент уступіць у сілу праз 30 дзён з дня афіцыйнага апублікавання (размешчана на афіцыйным сайце ЕЭК 14 кастрычніка).

У цяперашні час у Беларусі вядзецца праца па ўнясенні адпаведных змяненняў у нарматыўныя прававыя акты.

Для адсочвання перамяшчэння па тэрыторыі Мытнага саюза грузаў з падкаранціннай прадукцыяй на падставе Рашэнні Еўразійскай эканамічнай камісіі ад 17 жніўня 2010 года № 340 «Аб пытаннях забеспячэння каранціну раслін на мытнай тэрыторыі Мытнага саюза», інфармацыя аб выдадзеных беларускіх фітасанітарных сертыфікатах ў электронным выглядзе накіроўваецца ў адрас упаўнаважаных органаў Расіі і Казахстана для правядзення імі каранціннага фітасанітарнага кантролю (нагляду) паступае з Беларусі падкаранціннай прадукцыі.

Акрамя таго, беларускі бок унёс прапанову аб неабходнасці канфіскацыі падкаранціннай прадукцыі і транспартных сродкаў у выпадку выяўлення парушэнняў заканадаўства Мытнага саюза.

Прызнаная неабходнасць удзелу ў працы групы прадстаўнікоў Рэспублікі Казахстан.

Эфектыўнасць правядзення каранціннага фітасанітарнага кантролю ў Беларусі пацвярджаецца тым, што з моманту ўвядзення Расійскай Федэрацыяй часовай забароны, у прызначаннай для расійскіх атрымальнікаў прадукцыі каранцінныя аб'екты выяўлены ў 144 выпадках.

Нагадаем, 28 кастрычніка прэс-служба Россельхознадора паведамляла, што выяўленыя невыкананні правілаў транзіту, а таксама паўторнае выкарыстанне фітасанітарнага сертыфіката, што з'яўляецца грубейшымі парушэннямі міжнароднага заканадаўства, заканадаўства Мытнага саюза, Расіі і Беларусі ў галіне каранціну раслін.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля крытыкі А. Лукашэнкі паводзін Расіі ва Украіне Рассельгаснагляд неўзабаве знайшоў у прадукцыі сталічнага мясакамбіната нібыта геном афрыканскай чумы свіней.

**Жлобін.** Па гарачых слядах за суткі раскрылі жудаснае забойства дома сям'і з трох чалавек, іх потым вывезлі ў лес і спалілі з аўтамабілем малодшы сын з нявесткай.

**Мінск.** Прадпрыемства "Гардарбуд" аб'явіла тэндар на будаўніцтва дарожнай развязкі ля знесенага для "Газпрама" аўтавакзала "Маскоўскі", з дзяржбюджэту пойдзе 63 мільёна долараў.

**Ганцавічы.** Узнікшы раніцай пажар на чыгуначнай станцыі ў раённым цэнтры пажарныя патушылі за 12 хвілін, агонь пашкодзіў франтон будынка на плошчы 20 кв. метраў.

**Гродна.** Міліцыя затрымала 28-гадовага гродзенца-рэцыдзівіста, які прайграў у зале гульнявых аўтаматаў 10 мільёнаў . рублёў і разззлаваны разбіў 3 чужыя легкавыя аўтамабілі.

**Мінск.** У бліжэйшы час Крэмль, як папярэдзіў экс-глава Нацбанка РБ С. Багданкевіч, скароціць датацыі Беларусі з-за рэцэсіі расійскай эканомікі і вываду адтуль капіталаў.

**Крычаў.** Каб пазбегнуць крымінальнай адказнасці, былы гендырэктар "Крычаўцэменташыфер" Л. Скоцкі напісаў прашэнне аб памілаванні главе дзяржавы.

**Гомель.** Абласны суд пакараў мужчыну 14 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму за забойства на падпітку жонкі з ружжа ў першую шлюбную ноч за курэнне.

**Мінск.** Глава ЦВК Беларусі, неўязная ў ЕС Л. Ярмошына пацвердзіла, што ініцыятыўная група кандыдата ў прэзідэнты М. Статкевіча не будзе зарэгістравана, бо ён у турме.

**Гродна.** Ноччу ў вёсцы Путрышкі пасля сумеснай выпіўкі 48-гадовы сын забіў свайго 79-гадовага бацьку-пенсіянера пасля адмовы даць зноў грошай на закупку алкаголю.

**Мінск.** Як і чакалася, былы глава Дзяржпагранкамітэта генерал І. Рачкоўскі ўзначаліў федэрацыю хакея Беларусі, кіраваць ФПБ абралі 48-гадовага экс-лідара БРСМ М. Орду.

**Гродна.** У суд накіравалі справу санітарнага ўрача, якая 5 разоў узяла прадукты харчавання ў якасці хабару падчас праверак харчблокаў школьных сталовых горада.

**Слуцк.** Гісторыкі В. Бабкова і Н. Скеп'ян высветлілі па дакументах, што княгіня Сафія Слуцкая была каталічкай і памылкова экзархат БПЦ аднёс яе да праваслаўнай святой.

**Мінск.** Побач са сталічным Палацам тэнісу адкрылася Нацыянальная акадэмія тэнісу для падрыхтоўкі майстроў экстра-класу на 8 крытых і 15 адкрытых тэнісных кортах.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Пасля падаражэння ў 2015 годзе расійскай нафты ААТ "Нафтан" будзе няпроста завяршыць пачатую мадэрнізацыю, ужо ёсць праблемы з пагашэннем крэдытаў.

**Віцебск.** Спецыялісты тэлезавода "Віцязь" распрацавалі новы "разумны" тэлевізар 32LSD861-7DC Smart з падключэннем да Інтэрнэту праз Wi-Fi альбо 3G-мадэм.

**Паставы.** Канцэрн "Белдзяржхарчпрам" адмовіўся ад планаў будаваць у гарпасёлку Лынтупы новы спіртзавод, летась там адбыўся выбух і пацярпела асноўная вытворчасць.

**Расоны.** У райцэнтры з дапамогай АСБ "Беларусбанка" пабудавалі 23-ці па ліку ў вобласці тыпавы дзіцячы дом сямейнага тыпу, яшчэ адзін узводзяць у Шаркаўшчыне.

**Глыбокае.** Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій асвяціў ў вёсцы Карабы II новую праваслаўную царкву, храм паўстаў дзякуючы намаганням Ф. Міхалевіча і яго памочнікаў

**Чашнікі.** У буйной вёсцы Латыгалічы з насельніцтвам больш 250 чалавек з-за бюджэтных цяжкасцей закрылі пошту і ФАП, што вельмі засмуціла мясцовых жыхароў.

**Мёры.** Падчас акцыі "За бяспеку – разам" з жыхарамі аграгарадка Чарэсы сустрэўся міністр па надзвычайных сітуацыях РБ Уладзімір Вашчанка, паказалі ім спецтэхніку МНС

**Дуброўна.** На тэрыторыі раёна на аўтамагістралі М1 Брэст-Масква фірма з Расіі пачала ўзводзіць сёмы па ліку буйны аб'ект прыдарожнага сервісу з кафэ, рэстаранам, гатэлем.

**Шаркаўшчына.** Раённая пракуратура апратэставала прыгавор суда ў адносінах 23-гадовага начальніка перасоўнай пошты, які ўкраў з касы і потым вярнуў амаль 370 мільёнаў рублёў.

**Віцебск.** У новым фармаце пачаў вяшчанне новы сямейны тэлеканал "Віцебск" з выпускамі навін вобласці кожную гадзіну і аб'ёмам трансляцый 17,5 гадзін у суткі.

**Сянно.** У Доме культуры гарадскога пасёлка Багушэўск прайшлі ўрачыстасці з нагоды 40-годдзя стварэння дома-інтэрната для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

**Ушачы.** Вялікі інтарэс у жыхароў райцэнтра і ваколіц выклікала выстава ў мясцовым музеі народнай славы васкавых фігур з Санкт-Пецярбурга "Кола гісторыі".

**Віцебск.** На адной з новабудоўляў Васільеўскага вострава ў Санкт-Пецярбургу разбіўся насмерць вечарам пры падзенні з 5-га паверха 32-гадовы жыхар горада.

**Орша.** У сувязі з пераходам на зімовы перыяд перавозак Беларуская чыгунка ў ліку іншых адмяніла цягнік рэгіянальных ліній эканом-класа па суботах-нядзелях да Лепеля.

**Лепель.** Першаму і адзінаму ў краіне аб'яднанню клуба народных майстроў і мастакоў "Скарбонка" мясцовага РДК прысвоілі ганаровае званне "Заслужаны калектыў Беларусі".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Ці не губляем мы чалавечнасць?



■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

**У жнівеньскім нумары газеты “Вольнае Глыбокае” быў надрукаваны вельмі сур’ёзны і злабадзённы артыкул настаўніка-пенсіянера з Дзісны Фадзея Шымуковіча”Не згубіць бы нам чалавечнасць…”**

Сутнасць артыкула ў тым, што на думку аўтара, тэхнагенная цывілізацыя і тэмпы тэхнічнага прагрэсу 21 стагоддзя, якія імкліва “паскараюцца кожныя дзесяць год”, аказваюць значны ўплыў на фарміраванне асобы, а значыць, усяго грамадства. Аўтар лічыць, што “ёсць вялікая небяспека згубы чалавекам маральнасці, чалавечнасці”. І з гэтым нельга не пагадзіцца.

Ці не стварае наша сістэма адукацыі, у якой выхаванню асобы адводзіцца нязначнае месца, таму што першае месца займае навучанне, так бы мовіць, мадэфікаванага чалавека? – разважае далей аўтар. Бо “ў штучны розум нельга ўкласці пачуцці і ўяўленні”, а значыць, губляецца духоўнасць. Адсюль – непрадказальнасць учынкаў, жыццёвай пазіцыі такіх асоб з перавагай электроннага тыпу мыслення, – зазначаецца ў артыкуле.

Я ўявіла такога чалавека-робата будучага і мне стала жудасна. Артыкул Фадзея Шымуковіча – гэта трывожная канстатацыя факта і папярэджанне новым пакаленням, асабліва тым кіруючым асобам, якія адказваюць за навучанне і выхаванне, фарміраванне чалавека будучага, як “носьбіта лепшых маральных якасцяў”. Вось у чым галоўная задача.

Назву свайго артыкула я перафразавала, таму што ў жыцці назіраюцца такія факты, якія дазваляюць сцвярджаць: мы атрымалі тое, што спланавалі – маральнасць, духоўнасць паступова губляюцца. Зразумела, што ўсіх стрыгчы пад адзін грэбень не трэба. Але відавочна, што адмоўнае вылазіць на паверхню, яно перамагае, а дабрыня сціпла стаіць у куточку, мусіць быць незразумелай, адштурхнутай убок.

Перш за ўсё, за высокую адзнаку маральнасці грамадства лічацца яго адносіны да састарэлых людзей, асабліва адзінокіх і інвалідаў – самай неабароненай часткі насельніцтва. Дзяржава клапоціцца аб гэтых людзях: у кожным раёне ёсць дамы для састарэлых, у бальніцах выдзяляюцца так званыя сацыяльныя ложкі для круглясутачнага ўтрымання і догляду за хворымі, створаны сацыяльныятэрытарыяльныя цэнтры абслугоўвання на даму, аддзел сацыяльнай абароны выдзяляе грашовую дапамогу работніку па догляду за інвалідамі. Перадусім мне хочацца шчыра падзякаваць тым сацыяльным работнікам, якія добрасумленна адносяцца да сваёй працы, аддаюць гэтым людзям дабрыню і цеплыню сваіх сэрцаў. Але, на вялікі жаль, у кожным раёне ёсць і такія сацыяльныя работнікі (я маю шмат стасункаў з людзьмі, якія карыстаюцца іх паслугамі), што не выконваюць непасрэдных абавязкаў, якія прадугледжаны дамовай аб абслугоўванні пэўнага чалавека. Аб дзвюх гадзінах, якія сацыяльны работнік павінен затрачваць на дапамогу ў адно наведванне ўжо размова не ідзе! Толькі і чуецца: “Гэта не ўваходзіць у нашы абавязкі, тое не ўваходзіць, мы гэта не павінны рабіць і г.д.” У большасці выпадкаў састарэлы не можа прачытаць прадпісанні, якія дасылаюцца яму кіруючым органам. Тут і слёзы, і роспач, і крыўда, але трэба маўчаць. Бо дзе ж браць новыя кадры? Пра якую сумленнасць і цеплыню душы можна гаварыць, калі ў тваю хату прыходзяць работнікі са школьнымі звычкамі? Бывае, што па некалькі дзён зусім не прыходзяць. Але застаецца толькі цярпець. Трэба ж неяк выжываць. Трэба адзначыць, што кантроль у сферы сацыяльнай абароны заніжаны. Сутыкалася з такімі выпадкамі, калі аб’ект абслугоўвання станавіўся вінаватым, а сацыяльны работнік быў апраўданы. А між тым, у трубу вылятае шмат дзяржаўных грошай на аплату “працы” вельмі часта нядобрасумленных, абыякавых да састарэлага чалавека людзей. А колькі вядома фактаў абрабавання састарэлых з абмежаваным рухам, вымагання маёмасці, прадуктаў харчавання ў адзінокіх, нямоглых людзей з боку такіх “соцработнікаў”. У гэтай сістэме трэба штосьці мяняць, таму што ў дамы для састарэлых усіх не змесціш.



Але самае страшнае, калі ад людзей, якім патрабуецца падтрымка, дапамога ў старасці, адракаюцца ўласныя дзеці. Такіх фактаў, колькі заўгодна. Ведаю, што забяспечаныя сыны, атрымаўшыя адукацыю пры дапамозе бацькі, якія займаюць пасады, не жадаюць нават бачыць яго, інваліда першай групы, які застаўся без абедзвюх ног у выніку хваробы. Гэта ўжо інакш як бесчалавечнасць не назавеш. Але ж і ў іх ёсць дзеці. Ці не стануць гэтыя бацькі прыкладам такога ўчынку з боку сваіх дзяцей? Ходзяць у касцёл, моляцца. Дзе міласэрнасць і любоў да бліжняга? Яны не думаюць, што сваім учынкам распінаюць Хрыста яшчэ і яшчэ.

Гэта роднасныя адносіны. Але мы жывем у соцыуме. У народзе ёсць прымаўка: “Блізкі сусед даражэй за далёкага брата”. Канфліктаў і спрэчак паміж суседзямі іншы раз нават на пустым месцы хоць адбаўляй. То ў суседа зямлі больш на паўметра, то яблыні разрасліся, і галінкі ў агародзе цень робяць, то куры прыйшлі на ўбраны агарод, альбо сусед не так глянуў, а суседка плёткі распускае (“адна баба казала”). І вось ужо адно аднаго ненавідзяць нявядома за што. Ніхто не падумае, што ўсё гэта – нішчымная дробязь у параўнанні з тым кароткім імгненнем існавання чалавека, якое называецца жыццём. Мы – людзі, і розум, свядомасць павінны быць на першым месцы, а эмоцыі трэба прытрымліваць. Гэта тычыцца бытавых адносін.

Чалавек – вышэйшая істота сярод усяго жывога ў свеце, дзякуючы свядомасці, розуму, пачуццям. Ацэньваючы асобу чалавека, мы маем на ўвазе яго адукаванасць, інтэлект, культуру, маральныя якасці. А яны бываюць станоўчымі і адмоўнымі. І калі яны адмоўныя (іх вялікая колькасць) – жорсткасць, злосць, абыякавасць, насілле, здрадніцтва і г.д. – мы ўжываем паняцце “бесчалавечнасць”. Але гэта ўжо крайнасць.

Часцей у жыцці мы сутыкаемся з бездухоўнасцю, як вынік выхавання. Гэта нежаданне цікавіцца мастацкай літаратурай, любіць паэзію, сапраўдную музыку. Крыўдна, што нават інтэлігентныя людзі апраўдваюць гэта выразам: “Цяпер у інтэрнэце можна аб усім даведацца”. А для чаго будуюцца бібліятэкі, папаўняюцца кніжныя фонды, выдаюцца кнігі і часопісы? Для чаго існуюць канцэртныя залы, філармоніі, тэатры, урэшце рэшт зусім неблагія сельскія Дамы культуры ў аграгарадках? Апошнія пустуюць звычайна. Аднойчы ў адзін з такіх СДК па запрашэнні раённага ўпраўлення культуры прыехалі артысты Віцебскай філармоніі. Цудоўны канцэрт (спевакі, музыкі – інструменты: скрыпка, цымбалы, гітара) прайшоў для дванаццаці сабраўшыхся.

Нядаўна ў адным аграгарадку грамадскія актывісты арганізавалі вечарыну адпачынку ветэранаў працы. Была зроблена вялікая работа – у выніку: поўная глядзельная зала ветэранаў працы з узнагародамі на грудзях, прыехалі, як хто мог, з аддаленых вёсак. Быў дадзены вялікі канцэрт. А павіншаваць былых працаўнікоў прыйшоў толькі намеснік дырэктара па ідэалогіі гэтага сельгаспрадпрыемства.

Большасць жыве толькі ў пагоні за матэрыяльнымі каштоўнасцямі. І нікога ўжо не цікавіць, хоць на гэта звяртаюць увагу асобныя краязнаўцы, што ў адной вёсцы ёсць пахаванне савецкага салдата, якое ніхто не прыбірае, а ў другой – пахаванне ахвяр гета. Узгорачак, які яшчэ ледзь віднеецца, хутка зраўнуецца з ландшафтам. Просценькі надпіс, невялічкая агароджа. Няўжо на гэта патрабуюцца вялікія грошы? Нехта выказаў думку, што вайна не скончыцца, пакуль не будзе пахавана апошняя ахвяра.

Вясковыя маладыя людзі лепш разаб’юць лаўку ў зоне адпачынку, агароджу ці ўказальны знак на дарозе, вядома на падпітку, чым абкосяць траву на сядзібе адзінокай бабулькі. А калі і згаджаюцца дапамагчы ў чымсьці па гаспадарцы, дык “заламваюць” такі кошт, што лепш у пустазеллі застацца жыць.

Вельмі часта бывае, што сталы чалавек, які ад усёй душы дапамог, падтрымаў кагосьці з маладых, не толькі не пачуе простага слова “дзякуй”, але яшчэ становіцца аб’ектам знявагі з боку гэтай маладой асобы, так бы мовіць, абліганай ахвярай, на якую выліты цэбар бруднай вады. Сярод такіх асобаў – людзі, якім даверана несці ў народ культуру, быць аплотам духоўнасці. Іншы раз, здаецца, добры канцэрт мастацкай самадзейнасці СДК псуюць нізкапробныя нумары. Напрыклад, выходзяць на сцэну два хлопчыкі, твараў якіх з-за насунутых капюшонаў амаль не відаць, жвачкі ў роце, а “танец” складаецца з рухаў, якія нагадваюць размову двух глуханямых, альбо (даруй, Гасподзь) паралітыкаў. Разумею, што патрэбна ставіць і сучасныя танцы, калі ўжо мы забыліся на свае нацыянальныя, але не ў такім выглядзе. Дарэчы, мастацкі кіраўнік, якая “ставіла” такі танец, працуе без спецыяльнай адукацыі.

Нельга лічыць духоўным пакаленне, якое не цікавіцца мастацкай літаратурай, не любіць слова. Менавіта яно, ствараючы вобразы, выхоўвае чалавека з высокімі маральнымі якасцямі, робіць яго дабрэйшым, больш міласэрным, больш спагадлівым, адным словам – Чалавекам.

Паэт, перакладчык, бард Алесь Камоцкі лічыць, што “наяўнасць вобразаў, думак – такая ж важная аснова, як 80% вады ў арганізме”. “Калі адсутнічае густ да слова, можна быць добрым мэнэджэрам, але чалавекам будзеш толькі напалову”, – сцвярджае паэт.

Асабліва балюча тое, што большасць адракаецца ад роднай мовы. Гэта тое самае, што адрачыся ад бацькоў. Двухмоўе? Так. Няхай дзяржаўныя паперы друкуюцца па-руску, але ж культурныя мерапрыемствы павінны адбывацца з шырэйшым ужываннем беларускай мовы. У кожнага беларуса павінен быць гонар за сваю мову. Адна работніца культуры, напалову ўкраінка, не забылася ўключыць у рэпертуар канцэрта народную ўкраінскую песню.

І было відаць, з якім гонарам і любоўю яна выконвала песню.

Аднойчы надарыўся такі выпадак, я спытала знаёмага маладога мінчука: “Як бы ўспрынялі людзі, калі б я ішла па вуліцы Мінска і размаўляла на беларускай мове?” Ён адказаў: “Азіраліся б. У нас гэта нязвыкла”.

Нормай становіцца ў грамадстве не падтрымаць, не заступіцца за пакрыўджанага. Лепш прамаўчаць або, што яшчэ страшней, абраць гэтага чалавека ахвярай для абвінавачвання і проста задзяўбаць, як тую белую варону суродзічы. Нядобразычлівасць, зайздрасць, здрада сябру і паплечніку – зусім не рэдкія з’явы. Усё гэта было! Адказ ведае кожны. Людзі, не губляйце чалавечнасць!

*Людміла Ардынская*



## Белая варона

Варону белую ўбачыла ў клетцы.
Не прынялі свае, адбілася ад зграі.
І нехта, дальбог, вельмі бессардэчны
Сказаў: “Сядзі, ты больш не палятаеш”.
Не дзіва дзіўнае і не паўлін заморскі.
Здаецца, некім тут цікаўных падзівіць.
На жаль, ёсць люд яшчэ на свеце боскім,
Над кімсьці каб паздзекавацца, пакпіць.
Без ежы і вады варона гіне.
Каторы дзень у палоне так сядзіць.
А хто ідзе, дык мімаходзь і кіне:
“Дык белая ж, няхай сабе сядзіць”.
Шкадую белую няшчасную варону –
Я смагу зведала, хацелася мне піць.
Адкрыю клетку, выпушчу варону
На волю, хай узнімецца й ляціць!

# Памяці вогненных вёсак

**У Шаркаўшчынскім раёне 31 кастрычніка ўшанавалі памяць землякоў, што загінулі ў спаленых вёсках на тэрыторыі раёна падчас Другой сусветнай вайны.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Мерапрыемства распачалося ў 12 гадзін у вёсцы Шыці, дзе на месцы пахавання ахвяраў адбыўся жалобны мітынг. У ім удзельнічалі прадстаўнікі мясцовай улады, грамадскіх арганізацый, мясцовыя жыхары, у тым ліку тыя, якім удалося выжыць падчас той страшнай трагедыі.

Семдзесят два гады таму, у лістападзе 1942 года падчас правядзення антыпартызанскай карнай аперацыі "Нюрнберг" нямецкімі акупантамі былі знішчаны разам з жыхарамі больш за дзесяць вёсак і хутароў Ёдскага сельскага Савета. Былі спаленыя Куштылі, Свілы, Трабаўшчына, Строна, Жураваўшчына, Куялеўшчына, Бялкова, Сялібка, Ігнацева, Падрэзаўшчына, Станіслаўова. Ахвярамі карнікаў напрыканцы 1942 года сталі каля сямісот мірных жыхароў, з із 248 пахавана ў Шыцях. Сярод ахвяр былі жанчыны, дзеці, старыя.

Аперацыя "Нюрнберг" праводзілася супраць партызан, якія дзейнічалі ў Каз'янскіх лясах на тэрыторыі сучасных Шаркаўшчынскага, Браслаўскага і Пастаўскага раёнаў. Мэтай карнікаў было застрашыць мясцовае насельніцтва і пазбавіць партызан матэрыяльнай базы.

Адкрыў мітынг намеснік старшыні райвыканкама Ю. А. Васілеўскі. Юрый Анатольевіч падкрэсліў важнасць захаваць памяць не толькі пра воінаў і партызанаў, што загінулі ў мінулую вайну, але і пра ахвяры сярод мірнага насельніцтва.

Як паведаміў праваслаўны святар настаяцель Свята-Успенскай царквы айцец Васілій Стрыжнёў, які прысутнічаў на мерапрыемстве, ахвяры пахаваныя якраз на тым месцы, дзе некалі стаяла праваслаўная царква. Зараз тут стаіць помнік, пабудаваны яшчэ ў савецкія часы, у 1976 годзе.

Сярод тых, хто прыйшоў на мітынг памяці, былі і сведкі той страшнай трагедыі — Ганна Уладзіміраўна Цітовіч і Іпаліт Іпалітавіч Касцюкевіч. Іх успаміны цяжка было слухаць без слёз.

Далей мерапрыемства працягвалася ў сельскім Доме культуры ў Ёдах. Яно было падрыхтавана ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці Ёдскага Дома культуры і вучнямі мясцовай школы. Са сцэны гучалі песні і вершы аб вайне, вядоўца зачытала ўспаміны сведак тых падзей, некаторыя відавочцы выступілі з успамінамі асабіста. Варта адзначыць, што мерапрыемства было вельмі добра падрыхтаванае і прайшло амаль цалкам на беларускай мове.


Сведка страшных падзей 1942 года Ганна Цітовіч ускладае кветкі да помніка загінуўшым землякам.

# Музыка Агінскага гучала ў касцёле ў Лучаі


Аляксандра Бузун і Дзмітрый Корсак.

**У суботу 25 кастрычніка ў Лучаі прайшоў фэст, прысвечаны ўшанаванню святога Апостала Юды Тадэвуша.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Менавіта імя гэтага святога носіць лучайская парафія.

На свяце прысутнічалі святары з суседніх парафій, а таксама шмат вернікаў як з лучайскай, так і з іншых парафій, журналісты з каталіцкіх і свецкіх сродкаў масавай інфармацыі.

Распачалася ўрачыстасць у 15 гадзін Адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманта. А ў гэты час шматлікія госці ўсё прыбывалі на свята. Да пачатку Імшы ўся плошча перад касцёлам была запоўненая аўтамабілямі. Былі госці нават з-за межаў нашай краіны.

Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Віктар Місевіч, які зараз служыць у Глыбокім. Казанне да вернікаў прамовіў ксёндз Валерый Марціноўскі.

У сваім слове ён звярнуў увагу на важнасць малітвы ў жыцці чалавека. Навучыцца ж маліцца можна толькі ў сям'і. І тут асаблівая адказнасць ляжыць на мужчыне як галаве сям'і. Прынята лічыць, што малітва жаночая справа, – адзначыў святар, – але гэта не так. І ў прыклад ён прывёў свайго дзеда, які кожны вечар пасля цяжкай працы маліўся перад абразамі. І ўсе ў сям'і ведалі, што падчас гэтай размовы з Богам дзядулю нельга было трывожыць. Гэта ў сваю чаргу служыла прыкладам для іншых членаў сям'і.

Падчас набажэнства адбылася працэсія з дарамі. Дары падносілі прадстаўнікі ад вёсак лучайскай парафіі. Сярод паднесеных дароў былі свечка як сімвал святла Хрыста, Кніга Святога Пісання як сімвал мудрасці, кветкі як знак прыгажосці створанага Богам свету, хлеб і віно, якія падчас набажэнства ператвараюцца ў Цела і Кроў Хрыста.

Напрыканцы набажэнства была прамоўлена Літанія да святога Апостала Юды Тадэвуша, а потым адбылася працэсія вакол касцёла. Закончылася ж набажэнства па традыцыі спевам гімну "Магутны Божа".

Але свята на гэтым не скончылася. Удзельнікаў фэсту чакаў яшчэ канцэрт. Ды і не магло быць у Лучаі інакш!

На гэты раз надвор'е не дазволіла правесці канцэрт на пляцоўцы перад касцёлам, таму артысты выступілі ў касцёле. З-за гэтага і рэпертуар быў больш сур'ёзны: шмат гучала класічнай музыкі. Ды і як жа інакш – фундатары касцёла былі блізкім сваякамі кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, 250-годдзе з дня нараджэння якога будзе адзначацца ў наступным годзе. У Лучаі з гэтай нагоды плануюць усталяваць помнік кампазітару, макет ужо гатовы, зараз ідзе пошук спонсараў. Таму, хто мае магчымасць, далучайцеся!

Першымі выступілі акардыяністы Дзмітрый Корсак і Аляксандра Бузун. Дзмітрый, якога называюць "залатым акардэонам Беларусі", стаў ужо частым госцем у Лучаі. Яго выступы вельмі спадабаліся гледачам. Спадзяёмся, што Аляксандра таксама яшчэ не раз наведае Лучай.

Далей удзельнікі праслухалі кампазіцыю на аргане, якую выканаў знакаміты арганіст Юры Габрусь. Пасля гэтага гасцей зноў чакаў сюрпрыз – на свята завітала спявачка Таццяна Грыневіч-Матафонава. Яна прыехала не адна, а разам са сваім сынам Адасём і маладой выканаўцай Надзеяй Міцэвіч. Яны разам з Юрыем Габрусём квартэтам выканалі сем каталіцкіх спеваў. Потым некалькі сваіх песень Таццяна праспявала адна. А закончыўся канцэрт спевам гімна "Магутны Божа" ў выкананні Таццяны пад акампанемент аргана, за які сеў Юры Габрусь. Па апладысментах гледачоў можна было меркаваць, што выступ ім вельмі спадабаўся.

Але і на гэтым свята не скончылася! Напярэдадзе было асвячэнне трох новых барэльефаў у сцяне вакол касцёла. На дварэ ўжо сцямнела, таму падсвечваць цырымонію прыйшлося ліхтаром з відэакамеры. Гэта надавала мерапрыемству асаблівую ўрачыстасць і містычнасць. Шмат хто гадаў, чаму не зрабілі гэта адразу пасля Імшы, калі было яшчэ відна. І тут ксёндз Мікалай Ліпскі зноў здзівіў гасцей свята – як толькі закончылася асвячэнне, у паветры раздаліся гукі феерверка! Ён вельмі прыгожа выглядаў у начным небе на фоне касцёла.

Напрыканцы хочацца выказаць падзяку пробашчу парафіі святога Юды Тадэвуша ў Лучаі ксяндзу Мікалаю Ліпскаму за гэта цудоўнае свята і выказаць спадзяванне, што ў хуткім часе Лучай зноў пакліча да сябе гасцей.

Дарэчы, у нядзелю, 9 лістапада пасля Імшы, якая пачнецца ў 10 гадзін, у касцёле ў Лучаі адбудзецца канцэрт арганнай музыкі. Пробашч касцёла ксёндз Мікалай Ліпскі запрашае ўсіх, хто любіць і цэніць гэты музычны інструмент, наведаць лучайскі касцёл у нядзелю.


Таццяна Грыневіч-Матафонава, Надзея Міцэвіч, Адась Матафонаў і Юры Габрусь.



